**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 14 (730) 3 красавіка 2014 года. Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






**Прамоцыя прадукцыі ORIFLAME ў Глыбокім. Не ўсе набываюць, але ўсім цікава, асабліва дзяўчатам.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Шаркоўшчынскі раён

# Выбары без выбару

■ Станіслаў Раманчук

**Генеральнай рэпетыцыяй прадстаячых праз год чарговых прэзідэнцкіх выбараў стала прайшоўшая кампанія па фарміраванні мясцовых Саветаў дэпутаў.**

Як і чакалася, на гэтым галасаванні зноў на “лідзіруючыя” пазіцыі ў краіне выйшла Віцебская вобласць, дзе на ўчасткі прыйшло найболей, амаль 82,4 % выбаршчыкаў. Сярод рэгіёнаў Прыдзвіння ў каторы раз не было роўных Шаркоўшчынскаму раёну. У практычна вясковым раёне, як за сталінскім часам, толькі ў XXI стагоддзі яўка дасягнула амаль 93 % - фантастычны паказчык пры адсутнасці парога выбаршчыкаў. Як і ў іншых кутках, мясцовы люд пры гэтым вельмі спяшаўся галасаваць абавязкова датэрмінова. Мясцовы райкам БРСМ нават спецыяльную акцыю “Мой першы выбар” зладзіў з гэтай нагоды, а на ўчастку № 2 у памяшканні ДБУ-26 уручыў памятныя падарункі праявіўшым “грамадзянскую актыўнасць” вучням-старшакласнікам братам Стоцікам. Яны не сталі чакаць асноўнага дня выбараў і таксама прыйшлі галасаваць датэрмінова. Зноў у першых радах выбаршчыкаў былі заўважаны людзі старэйшага пакалення. Адзін з іх Мікалай Цітовіч у нядзелю прыйшоў на участак № 1 у раённы Дом культуры раней за усіх і атрымаў за сваю актыўнасць таксама падарунак. У астатнім гэтыя выбары без альтэрнатыўных кандыдатаў прайшлі па даўно адпрацаванай і адладжанай да дробязей схеме за два апошнія дзесяцігоддзі. За 5 дзён датэрміновага галасавання штодзень тысячы жыхароў раёна паспелі выканаць свой грамадзянскі доўг. У выніку паўсюдна на Віцебшчыне былі сфарміраваны ўсе 224 мясцовыя Саветы розных узроўняў, уключаючы маланаселены сельскі Шаркоўшчынскі раён. І толькі ў трох акругах выбары не адбыліся, бо памерлі адзіныя кандыдаты, якія былі вылучаны.

## Верхнядзвінскі раён

# З’явіцца і дом паломніка

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам беларускія ўлады сталі прызнаваць і адзначаць значную дзейнасць, ролю ў грамадстве рэлігійных дзеячаў.**

Вось і сёлета лаўрэатам ганаровага звання “Чалавек года Віцебшчыны-2013” стаў пробашч прыхода св. Тройцы з Верхнядзвінскага раёна Чэслаў Курэчка. Гэты святар, ураджэнец суседняй Браслаўшчыны ўжо сёмы год працуе ў касцёле вядомай на ўсю Беларусь вёскі Росіца. Менавіта там зімой 1943 года падчас карнай экспедыцыі гітлераўцаў былі спалены з мясцовымі жыхарамі два святары Антон Ляшчэвіч і Юрый Кашыра, якія адмовіліся пакінуць сваіх прыхаджан. Аднак зараз гэты край пакрыху вымірае, тут няма ўжо калгаса, закрылі школу з поштай і вёска абязлюдзела. Аднак дзякуючы самаадданай працы ксяндза Чэслава Росіца жыве, а сам храм стаў цэнтрам культуры і добраўпарадкавання. Мясцовасць патанае ў кветках, наведзена прыгажосць над возерам, у ваколіцах касцёла, на могілках і месцы пакутніцкай смерці землякоў. Сам святар не цураўся фізічнай працы, паказваў прыклад, каб замест балота з хмызняком з’явіўся куток прыгажосці і захаплення. Да таго ж сюды не толькі ў лютым і ў жніўні, калі ў мястэчку адбываюцца фэсты, прыязджаюць шмат пілігрымаў з розных куткоў Беларусі і замежжа. Каб іх прыняць і размясціць, ксёндз Чэслаў дамовіўся аб перадачы прыходу зачыненага дзіцячага садка. У ім пачаліся рамонтныя работы і неўзабаве з’явіцца памяшканне для ўтульнай гасцініцы пры храме. Менавіта касцёл стаў цэнтрам прыцяжэння людзей і з іншых вёсак. У храм прыязджаюць іх жыхары, моладзь, сталі наведваць Богаслужэнні і праваслаўныя, для якіх таксама гасцінна адкрыты дзверы святыні.

## Пастаўскі раён

# Талент, памножаны працай

■ Чэслаў Якубовіч

**Нездарма народная мудрасць сведчыць, што адораны чалавек праяўляе свае здольнасці ў розных сферах дзейнасці.**

Вось і ў Пастаўскім раёне многія парадаваліся за свайго знакамітага земляка Алега Валодзьку з нагоды прысуджэння яму абласной літаратурнай прэміі за 2013 год за лепшую кнігу прозы. Два гады назад пабачыла свет яго мастацка-дакументальная праца-роздум “Сын зямлі і неба”, у якой былы кіраўнік грымеўшай у СССР гаспадаркі расказаў пра перажытае, пра людзей, з якімі яго звёў лёс. У свой час у далёкім 1968 годзе малады 22-гадовы механік узначаліў мясцовы занядбаны калгас і здзейсніў цэлую рэвалюцыю. Гаспадарка стала магутнай, шматразгалінаванай, мела падсобныя вытворчасці, першай у краіне перайшла на заходнюю тэхніку, мела свой аэраклуб і басейн. А потым гэты неардынарны чалавек у 50 гадоў дасканала вывучыў нямецкую мову для кантактаў са сваімі партнёрамі, многім землякам дапамог вылечыць за мяжой цяжкія хваробы. Калі ягонае здароўе было сур’ёзна падарвана і цудам захавалася жыццё, у Алега Адольфавіча выявіўся і талент літаратара. Ён стаў пісаць цікавыя апавяданні пра пасляваенную маладосць, друкаваць іх у мясцовай райгазеце. Праслаўлены старшыня, Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат і кавалер шматлікіх дзяржузнагарод у сталым узросце дасканала авалодаў камп’ютарам. З яго дапамогай ён і піша цяпер, выдаў ужо некалькі кніг, у якіх можна прасачыць жыццё глыбінкі. У творах Валодзькі бачна любоў аўтара да простых людзей, сваіх землякоў, у якіх ён вучыўся ўвесь час разумець свет, дзеля якіх ён плённа працаваў на працягу амаль 40 гадоў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.04.14 | | | | Пятніца 04.04.14 | | | | Субота 05.04.14 | | | | Нядзеля 06.04.14 | | | | Пн.07.04.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | 0 | +8 | +3 | 0 | 0 | +4 | -1 | -4 | -1 | +5 | 0 | -1 | +1 | +9 | +6 | +6 | +4 | +8 |
| Ціск | 747 | 745 | 743 | 742 | 742 | 743 | 746 | 749 | 751 | 754 | 754 | 754 | 753 | 752 | 749 | 746 | 745 | 746 | 747 |
| Вільготнасць | 75 | 78 | 38 | 66 | 78 | 88 | 38 | 51 | 64 | 70 | 34 | 61 | 65 | 66 | 33 | 66 | 87 | 100 | 75 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 4 З | 3 З | 5 С | 5 С | 4 С | 2 С-З | 4 С-З | 5 С-З | 4 З | 6 Ю-З | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 6 З | 5 З | 6 С-З | 5 С-З |

# Аб самым надзёным

## БЕЛАРУСКАЯ ЭКАНОМІКА ДОРАГА ЗАПЛОЦІЦЬ ЗА ЎВАРВАННЕ РАСІІ Ў КРЫМ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Сітуацыя ў айчыннай эканоміцы цяпер незайздросная, знешні дзярждоўг вялізны, наблізіўся да амаль 40 млрд. USD і дасягнуў 54,8 % ВУП. З пачатку года назіраецца спад у прамысловасці, шмат праблем у сельскай гаспадарцы напярэдадні веснавой пасяўной.**

Вось ужо некалькі тыдняў у цэнтры ўвагі замежных ды і айчынных СМІ знаходзяцца вельмі драматычныя падзеі ва Украіне, а таксама анексія ўкраінскага паўвострава Крым Расійскай Федэрацыяй. З гэтай нагоды раптам пацягнула на шчырасць і беларускага лідара, які на адным з выбарчых участкаў сталіцы днямі шмат адказваў на падрыхтаваныя загадзя пытанні наконт крымскіх і кіеўскіх падзей. Канешне, на публіку было сказана, што ніякага ціску Масквы на беларускае кіраўніцтва не існуе, праўда, пасля перадыслакацыі яшчэ адной групы ўдарных расійскіх ваенных самалётаў на беларускія аэрадромы.

Аднак нашы ўкраінскія суседзі ўспрынялі такі крок даволі балюча, хоць і з разуменнем. Наш бок усяляк да таго моманту стараўся захоўваць нейтралітэт наконт пуцінскай палітыкі ў адносінах з Украінай, а ў заяве МЗС Беларусі так і не было сказана, што беларусы прызнаюць анексію Крыма. У той самы час большасць дзяржаў свету асудзілі незаконны і нелігітымны рэферэндум у Крыме, ягоныя прадказальныя вынікі пад дуламі “зялёных чалавечкаў” – расійскіх спецназаўцаў. На розных узроўнях было заходнімі палітыкамі сказана, што свет не прызнае ніколі гвалтоўнае далучэнне Крыма і Севастопаля да Расіі.

На фоне такой вось інфармацыйнай вайны спатрэбіўся голас падтрымкі з боку Беларусі і А. Лукашэнка вымушаны быў дэманстраваць сваю падтрымку Маскве. Перад гэтым адбылося некалькі тэлефонных размоў лідараў РФ і РБ, пра змест якіх не паведамлялася. У развіццё падзей ўжо на другі дзень пасля выступу прэзідэнта РБ украінскі пасол быў адкліканы з Мінска. Самае сумнае, што аб’ёмы беларуска-ўкраінскага гандлю сёлета зніжаюцца, а цяпер яны могуць увогуле стаць мізэрнымі. Недалёкім людзям у Беларусі пад уплывам агрэсіўных расійскіх тэлеканалаў цяжка разабрацца ў глыбіннай сутнасці праходзячых працэсаў. Між тым відавочна, што з беларусамі ды і з нашым краўніцтвам цяпер Крэмль не будзе цырымоніцца, яно загнана ў кут.

А вось перад нашай суседкай на Усходзе ўжо паўсталі даволі змрочныя перспектывы для кволай яшчэ расійскай эканомікі. Расію з яе “згубіўшым сувязь з рэальнасцю” прэзідэнтам, выхадцам з гебісцкіх структур чакае не толькі сур’ёзная міжнародная ізаляцыя. Нехта скажа, што рускім не гэта начхаць, груба кажучы. Але на самой справе, эканамісты гэта пацвердзяць, Крамлю пагражае нулявы рост эканомікі ў лепшым выпадку, масавы адток капіталу на дзясяткі мільярдаў долараў, што назіралася з пачатку года. Пакуль народу не даводзяць маскоўскія прапагандысты горкую праўду, што адбываецца і што будзе далей.

А вось экс-рэктар Расійскай эканамічнай школы, прафесар Сяргей Гурэеў кажа, што РФ болей залежыць цяпер ад Захаду, чым Захад ад Расіі, і таму болей расіяне пацерпяць ад санкцый. З цягам часу ўжо ў бліжэйшы час гэта будуць рэальныя, а не дэкларатыўныя санкцыі супраць расійскіх банкаў і вядучых кампаній, фінансавых структур. Ім ужо пачалі пакрыху перакрываць доступ да банкаўскай сістэмы ЗША, а на чарзе і ЕС. І вось гэтыя санкцыі неўзабаве балюча закрануць і бліжэйшых гандлёвых партнёраў Расіі, сярод якіх і Беларусь. Рускія ўжо адчулі гэта ў абменных пунктах, па росце цэн на імпартныя тавары і на прадукты харчавання.

Праўда, беларускі лідар рабіў свае гучныя заявы і дэ-факта прызнаў Крым расійскім з-за вельмі моцнай нашай залежнасці ад Крамля. У дадатак зараз за такое вось прызнанне анексіі паўвострава Расія можа адзячыць свайго саюзніка адменай нарэшце экспартнай пошліны, якую наша краіна вымушана плаціць у расійскі бюджэт. А сума гэта не маленькая, дасягае 3-4 млрд. долараў у год, хоць мы і з’яўляемся членамі Мытнага саюза трох дзяржаў. Сітуацыя ў айчыннай эканоміцы цяпер незайздросная, знешні дзярждоўг вялізны, наблізіўся да амаль 40 млрд. USD і дасягнуў 54,8 % ВУП. З пачатку года назіраецца спад у прамысловасці, шмат праблем у сельскай гаспадарцы напярэдадні веснавой пасяўной.

Вось чаму вылезла на свет Божы патрэбная Крамлю рыторыка. Наша краіна зноў запляміла сваю рэпутацыю, але за дадатковыя самалёты і за прызнанне Крыма рускім прыйдзецца заплаціць нам дадатковыя прэферэнцыі. А вось самім крымчанам, шчыра кажучы, можна толькі паспачуваць. Іх тэрыторыя для большасці чалавецтва будзе непрызнанай, а Украіна прызнала яе акупаванай зямлёй, куды будзе спецыяльны рэжым уезду. Курортны сезон на чарнаморскіх пляжах сёлета будзе праваленым, ды і беларусы ў Крым болей не будуць масава ездзіць свабодна, як раней. Нашы сувязі з братнім украінскім народам таксама пачалі перажываць няпросты этап узаемаадносін.

## Дзень за днём

**Для прадстаячай сяўбы ў Беларусі назапасілі менш паловы неабходных угнаенняў, для работ у полі гаспадаркам не хапала больш 10 трыльёнаў рублёў. Анексія Крыму Расіяй прывяла да самага вострага геапалітычнага канфлікту з Захадам з часоў Другой сусветнай вайны. Невядома, якія наступствы ад новай халоднай вайны чакаюць беларусаў, а мяса зноў ужо падаражэла. На кожным з 22 праверaных рынкаў краіны выявілі парушэнні правілаў гандлю, недахоп месцаў для паркован аўто. Беларусы сталі масава адмаўляцца ад адпачынку ў Крыме, летась іх там было амаль 400 тысяч чалавек. А. Лукашэнка паабяцаў, што на матчах чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску не будзе свабодных месцаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** На чарговым саміце ЕС быў падпісаны палітычны блок Пагаднення аб асацыяцыі Украіны з Еўрасаюзам, яго эканамічная частка будзе падпісана пасля выбараў ва Украіне.

**Украіна.** МЗС краіны заклікаў чалавецтва ўлічваць урокі гісторыі, бо Расія рэальна цяпер пагражае цывілізаванаму свету і міжнароднай бяспецы, не мае здаровага сэнсу.

**Германія.** Эксперт па Расіі, прафесар Эберхард Шнайдэр заявіў, што У. Пуцін не здольны да дыялогу і новая халодная вайна з Захадам зацягнецца гадоў 10, Кітай стане мацней РФ.

**Украіна.** Як і чакалася, Рада нацбяспекі і абароны ўвяла візавы рэжым з Расіяй, краіна заявіла аб сваім выхадзе з СНД, зацвердзіла план магчымай эвакуацыі ўкраінцаў з Крыма.

**Ізраіль.** Ваенная авіяцыя краіны нанесла ноччу моцны ракетны ўдар па ваенных аб'ектах Сірыі пасля інцыдэнту з раненнем чатырох сваіх салдат на Галанскіх вышынях.

**Францыя.** Глава МЗС Ларан Фабіус паведаміў аб рашэнні групы 8 вядучых дзяржаў свету прыпыніць членства Расіі ў гэтай арганізацыі пасля агрэсіі РФ супраць Украіны.

**Польшча.** На фоне абвастрэння падзей вакол Украіны палякі запоўнілі свае сховішчы газу на 70 %, немцы – на 60 %, што дазволіць ім нейкі час абысціся без расійскага паліва.

**Літва.** Літоўскі пасол ва Украіне Пятрас Вайтэкунас заявіў, што Расія не спыніцца анексіяй Крыму, рускія агрэсары пагражаюць міру і правапарадку ўсёй Еўропы.

**Расія.** З-за агрэсіі ў Крыме, па прагнозах экспертаў, краіну чакае падзенне эканомікі пры высокім росце цэн, рост ВУП з ранейшых 3,8 % у лепшым выпадку да 0, абвал рубля.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Н. Мадура ўвёў армію на месцы акцый пратэсту ў Каракасе і яшчэ ў некалькі гарадоў краіны, людзі 6 тыдняў патрабавалі яго адстаўкі з-за дрэннага жыцця.

**Украіна.** Патрыярх Украінскай праваслаўнай царквы Філарэт заклікаў нацыю аб'яднацца, разам абараніць супольны ўкраінскі дом, а свет даць адпор расійскаму агрэсару.

**Тайланд.** Канстытуцыйны суд краіны прызнаў несапраўднымі вынікі парламенцкіх выбараў пасля шматлікіх акцый пратэсту, выявілася шмат парушэнняў закону аб выбарах.

**Карэя.** Сусветны лідар электронікі кампанія Samsung распрацавала адразу тры варыянты разумных гадзіннікаў з функцыяй смартфонаў, яны запускаюцца адбіткамі пальцаў.

**Украіна.** Украінцаў шакіравала, што беглы экс-прэзідэнт В. Януковіч піў выключна малако ад анцілопы па 2 літры ў дзень, адных садоўнікаў працавала на яго 100 чалавек.

**Латвія.** Глава федэрацыі хакея К. Ліпман дапусціў, што чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску можа і не адбыцца на фоне абвастрэння падзей у Крыме і яго байкоту групай краін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава дыппрадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора станоўча адзначыла тое, што беларускія дыпламаты ўмела не выказалі падтрымку дзеянням Расіі ў Крыме.

**Жодзіна.** Мясцовы гігант БелАЗ, як і МАЗ з "Гомсельмашам", з пачатку года ў 2 разы знізілі аб'ёмы вытворчасці машын і камбайнаў, на тэхніку няма попыту і ў Расіі.

**Мінск.** Камітэт салідарнасці з Украінай запатрабаваў ад Генпракуратуры забараніць трансляцыю тэлеканала РТР у Беларусі за яго нападкі на суверэнітэт, агрэсію да нацый.

**Рэчыца.** П'яны 28-гадовы гараджанін на джыпе вечарам на шалёнай хуткасці ўрэзаўся ў людзей на прыпынку, адразу загінулі трое маладых мужчын, а двое былі паранены.

**Печы.** Паўторная праверка пацвердзіла, што 18-гадовы салдат 2-й вучэбнай танкавай роты памёр з-за хваробы сэрца, яго там ганялі, а арганізму нельга было даваць перагрузкі.

**Мазыр.** Арбітражны суд Масквы зноў адмовіў мясцоваму НПЗ вярнуць сабе спрэчны пакет акцый "Слаўнафты", за які завод судзіцца без поспеху ўжо шмат гадоў.

**Слонім.** Пасля абрушэння трубы гарадской кацельні без цяпла засталіся ў раённым цэнтры 126 шматпавярховак, 6 інтэрнатаў, 3 школы, 7 садзікаў, прадзільная фабрыка, сацыяльны прытулак.

**Мінск.** Серыя пікетаў салідарнасці з Украінай ля пасольства РФ закончылася арыштамі іх нешматлікіх удзельнікаў, быў арыштаваны нават аташэ расійскай дыпмісіі А. Пчэлінцаў.

**Баранавічы.** Да канца года на авіябазе ля горада будзе разгорнуты цэлы полк з 24 расійскіх самалётаў СУ-27СМЗ, яны будуць супрацьстаяць ВПС НАТО у Польшчы, Літве.

**Гомель.** Былы мэр горада Святлана Гольдадэ заявіла, што цяперашнія главы абласцей і раёнаў РБ нічога не вырашаюць, іх задачы выконваць дырэктывы і каманды зверху.

**Столін.** Ураганны вецер моцна пашкодзіў дах райбальніцы і знёс металачарапіцу на плошчы 250 квадратных метраў, па краіне пацярпелі ад стыхіі 87 населеных пунктаў.

**Мінск.** Больш за 4,5 тысячы жанчын, як паведаміла Міністэрства абароны Беларусі, служаць у арміі, з іх паўтысячы – афіцэры: 4 палкоўнікі і 53 падпалкоўнікі.

**Лельчыцы.** У вёсцы Тонеж кінастудыя "Беларусьфільм" зняла дакументальны фільм "Чырачка" пра ўнікальны ў свеце абрад сустрэчы вясны, які захаваўся з даўніх часоў.

**Нясвіж.** Самым папулярным у Беларусі стаў мясцовы музей-запаведнік, летась яго палацы наведалі больш 400 тысяч турыстаў, за ім "Брэсцкая крэпасць" (390 тысяч).

**Мінск.** Па зацверджанаму графіку пачалося засяленне 12 новых гатэляў, пабудаваных да чэмпіянату свету па хакеі, адзін з іх здаць не паспеюць, але будзе студэнцкая фан-вёска.

## Урад павышае зарплаты работнікам дзіцячых садоў



■ Сяржук Серабро

**З 1 красавіка ў Беларусі будзе павялічана заработная плата работнікаў устаноў дашкольнай адукацыі. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 265 ад 27 сакавіка 2014 года.**

Урад пайшоў па шляху павышэння надбавак для педагогаў за кваліфікацыйныя катэгорыі. Так работнікі з вышэйшай катэгорыяй атрымаюць надбаўку ў 60 працэнтаў замест 30, за першую катэгорыю надбаўка вырасце з 20 да 40 працэнтаў, а за другую - з 15 да 25 адсоткаў. У цяперашні час розніца паміж надбаўкамі выхавальніка, які мае другую кваліфікацыйную катэгорыю, і выхавацеля з вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыяй складае ўсяго 175 тысяч рублёў, а з 1 красавіка яна павінна скласці 405000 рублёў.

У Савеце Міністраў лічаць, што павелічэнне надбавак за наяўнасць кваліфікацыйнай катэгорыі будзе стымуляваць працу творча працуючых педагогаў, павышэнню якасці іх працы, выключэнне ўраўняльнага падыходу ў аплаце, захаванне кваліфікаваных кадраў у галіне. Аналагічныя падыходы будуць ужытыя пры павышэнні з 1 верасня 2014 года заработнай платы педагагічным работнікам устаноў агульнай сярэдняй адукацыі.

Педагогам, якія яшчэ не маюць катэгорый, шэф - кухарам, кухарам дзіцячага харчавання, памочнікам выхавальнікаў і іншым катэгорыям работнікаў дашкольных устаноў падвысяць тарыфныя стаўкі ( аклады) на 10 - 15 адсоткаў.

Крыніцай для ажыццяўлення павышэння заробкаў урад плануе выкарыстаць сродкі, атрыманыя ў выніку перагляду ўмоў аплаты бацькамі кошту харчавання дзяцей у дашкольных установах. У цяперашні час выдаткі бюджэту на ўтрыманне аднаго дзіцяці ва ўстанове дашкольнай адукацыі складаюць у сярэднім 1,5 мільёна рублёў у месяц, у той час як бацькі аплачваюць усяго каля 20 працэнтаў ад агульных выдаткаў. Пасля прыняцця пастановы бацькі будуць аплачваць у поўным аб'ёме толькі кошт набору прадуктаў харчавання, гэта значыць плата бацькоў павялічыцца ў сярэднім на 150 тысяч рублёў.

Пры гэтым не толькі захаваны раней існуючыя льготы па аплаце за харчаванне для асобных катэгорый сем'яў, але і ўведзены новыя: на 30 адсоткаў зніжана плата за харчаванне для сем'яў, у якіх двое дзяцей наведваюць дашкольную ўстанову, на 50 працэнтаў - для апекуноў, прыёмных бацькоў, бацькоў -выхавальнікаў дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, дзіцячых вёсак ( гарадкоў).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пад варту змясцілі намесніка генеральнага дырэктара РУП "Віцебскэнерга" за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, ён узвёў сабе катэдж за дзяржаўны кошт.

**Полацк.** На працягу чатырох дзён у Палацы культуры ААТ "Полацк-Шкловалакно" праходзіла выстава-ярмарка "Веснавы цэнапад" прадукцыі больш 20 айчынных фірм.

**Віцебск.** Да канца года мясцовы маслаэкстракцыйны завод запусціць у эксплуатацыю яшчэ адзін сучасны аўтаматызаваны цэх па выпуску да 405 тон рапсавага алею ў суткі.

**Глыбокае.** Па ініцыятыве главы раёна А. Морхата ўсе дзеці, якія народзяцца сёлета, атрымаюць сертыфікаты з сімволікай юбілейных урачыстасцей 600-годдзя горада.

**Навапалацк.** На працягу тыдня ў бальніцах і жаночых консультацыях горада і суседняга Полацка не рабілі аборты з бласлаўлення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Паўла.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе пачалі выпуск плаўленых сыроў у поліэтыленавых стаканчыках з рознымі напаўняльнікамі, навінка прадаецца па краіне.

**Шаркоўшчына.** На тэрыторыі раёна ва ўрочышчы "Чысты мох – Скураты" чэшскі інвестар плануе летам пачаць будаўніцтва завода па перапрацоўцы да 100 тысяч тон торфу.

**Віцебск.** У абласным цэнтры прайшоў выязны рэспубліканскі семінар работнікаў бытавога абслугоўвання насельніцтва, вобласць лідзіруе ў краіне па аб'ёмах паслуг.

**Докшыцы.** На выязным прыёме грамадзян міністр аховы здароўя Беларусі В. Жарко паабяцаў дапамагчы раёну кадрамі, маладымі кваліфікаванымі ўрачамі, іх не хапае.

**Расоны.** У новым утульным будынку справіла наваселле аддзяленне дзённага знаходжання інвалідаў, яго наведваюць больш 20 чалавек ва ўзросце ад 15 да 40 гадоў.

**Віцебск.** У Доме кіно сёння пройдзе першы паказ – сусветная прэм'ера фільма "Шагал-Малевіч" рэжысёра А. Мітты, натурныя здымкі тут праходзілі летам-восенню 2012 года.

**Паставы.** Абласную літаратурную прэмію імя П. Броўкі за 2013 год прысудзілі за кнігу "Сын зямлі і неба" экс- старшыні калгаса імя Суворава, Герою Сацпрацы А. Валодзьку.

**Полацк.** Суд пакараў 1,5 гадамі турмы жыхарку раёна за язду на падпітку без правоў на скутары, яна везла трох чалавек на ферму, урэзалася ў аўтобус, людзі былі паранены.

**Шаркоўшчына.** У раённым цэнтры прайшоў XII занальны абласны агляд-конкурс "Не старэюць душой ветэраны", Гран-пры дастаўся хору ветэранаў з Докшыц, ён едзе ў Мінск.

**Расоны.** Сертыфікат у суме 5 мільёнаў рублёў атрымала ад кампаніі "Белдзяржстрах" Клясціцкая СШ за правядзенне конкурса малюнкаў "Зберажом зямлю разам".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Базавая велічыня вырасце з 1 красавіка да 150 тыс. рублёў

**Базавая велічыня ў Беларусі з 1 красавіка складзе 150 тыс. рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №255 ад 25 сакавіка 2014, паведамілі БелТА ў прэс-службе ўрада.**

Цяпер базавая велічыня складае 130 тыс рублёў.

Базавая велічыня — гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай якіх-небудзь канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных выгодаў. Базавая велічыня была ўведзена ў Беларусі з 2002 года, ужываецца для вылічэння многіх паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

Таксама паведамляецца, што тарыфная стаўка першага разраду павысіцца з 1 красавіка і з 1 мая.

Для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўняныя па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, тарыфная стаўка першага разраду з 1 красавіка ўстаноўлена ў памеры Br262 тыс., з 1 мая — у памеры Br275 тыс.

***nn.by***

# Іосіф Навумчык пераабраны кіраўніком абласной арганізацыі ТБМ

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

**У нядзелю, 30 сакавіка, у Віцебску прайшла абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы.**

**На ёй прысутнічалі дэлегаты амаль з усіх раёнаў вобласці, прысутнічалі таксама прадстаўнікі ўлады. З дакладам выступіў кіраўнік Віцебскага ТБМ Іосіф Навумчык.**


Іосіф Навумчык

Ён выказаў занепакоенасць станам беларускай мовы ў цяперашняй Беларусі. Тое ж самае адзначалі ў сваіх выступах і прадстаўнікі раёнаў вобласці. Шмат папрокаў гучала і да прадстаўнікоў улады.

Удзельнікі канферэнцыі папрасілі выступіць Пятра Падгурскага, які прадстаўляў аддзел культуры ўпраўлення па ідэалагічнай рабоце, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама. У сваім слове Пётр Падгурскі імкнуўся даказаць, што беларуская мова ў нас не прыцясняецца і той, хто хоча ёй карыстацца, можа гэта рабіць свабодна. А наогул, па яго словах, пачынаць трэба з сябе.

Удзельнікі канферэнцыі падпісалі зварот да ўладаў, каб не дапусціць звальнення з працы Валянціны Крук, кіраўніка Полацкай арганізацыі ТБМ. Праблемы з працай у яе пачаліся пасля таго, як яна мела намер арганізаваць канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў Полацку.

Таксама на канферэнцыі было адзначана, што ў гэтым годзе 19 чэрвеня спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Васіля Быкава, і гэты юбілей на Віцебшчыне трэба адзначыць дастойна. Прагучаў заклік да ўладаў, каб правесці гэта святкаванне сумесна. Нагадаем, што святочныя мерапрыемствы з гэтай нагоды пройдуць на малой радзіме пісьменніка – у вёсцы Бычкі на Ушаччыне.

Напрыканцы мерапрыемства адбыліся выбары кіраўніцтва абласной арганізацыі ТБМ. Яе кіраўніком быў пераабраны Іосіф Навумчык. Намеснікам кіраўніка пераабраны наш зямляк Юрась Бабіч.


Абласная канферэнцыя ТБМ.

# Дзве пенсіянеркі згарэлі ў Віцебскай вобласці ў падпаленай траве

■ **Сяржук Серабро**

**29 сакавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў падпаленай сухой траве загінулі дзве жанчыны старэчага ўзросту — трагедыі адбыліся ў Пастаўскім і Сенненскім раёнах.**

У 15:16 з Лынтупаў у Пастаўскі РАНС паведамілі пра ўзгаранне травы на вуліцы Красава. Жанчына, якая тэлефанавала, паведаміла, што гаспадыня суседняга дома тушыла траву і звалілася ў агонь.

Прыбылыя на месца пажарнікі выявілі ў згарэлай траве цела загінулай 75-летняй пенсіянеркі. Плошча выгарання склала 0,06 га.

У той жа дзень, каля 16:00 паведамленне пра гарэнне травы ў вёсцы Меліхава паступіла ў Сенненскім раёне.

Травяны пажар тут ахапіў амаль гектар, таксама побач з жылым домам. На папялішчы пажарнікі выявілі труп 76-гадовай пенсіянеркі.

Прычынамі пажараў з'явілася неасцярожнасць пры выпальванні сухой расліннасці.

**МНС Беларусі нагадвае:** выпальванне сухой расліннасці строга забаронена! Выконвайце правілы пажарнай бяспекі, толькі разумны сэнс дапаможа пазбегнуць трагічных наступстваў.


Месца трагедыі.

# Жыхары Беларусі сталі менш купляць тэлевізараў, бо аддаюць перавагу камп'ютарам, паведамляе Белстат

**Жыхары Беларусі сталі менш купляць тэлевізары, а таксама відэа- і аўдыёапаратуру, паведаміла начальнік упраўлення статыстыкі ўзроўню жыцця насельніцтва і абследаванняў хатніх гаспадарак Нацыянальнага статыстычнага камітэта Іна Канашонак на прэс-канферэнцыі ў Мінску 27 сакавіка.**

Паводле яе слоў, гэта звязана з павелічэннем колькасці камп'ютарнай тэхнікі у беларускіх сем'ях. Калі ў 2012 годзе на 100 хатніх гаспадарак прыпадала ў сярэднім 59 персанальных камп'ютараў, то ў 2013-м – 70. Відэамагнітафонаў, відэаплэераў, DVD-плэераў адпаведна – 58 і 53, халадзільнікаў, маразільнікаў – 134 і 135, пральных машын-аўтаматаў – 73 і 78, печаў ЗВЧ — 60 і 62. Канашонак адзначыла, што ў цэлым можна гаварыць пра высокі ўзровень забяспечанасці насельніцтва бытавымі прыборамі працяглага карыстання.

Яна адзначыла, што камп'ютарная аснашчанасць і пашырэнне функцыянальнасці персанальных камп'ютараў спрыяюць актыўнаму выкарыстанню беларусамі інтэрнэту. Паводле даных выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, у 2013 годзе сярод жыхароў краіны ад 6 да 10 гадоў доступ у інтэрнэт мелі 59,8%, 11-15 гадоў – 92,3%, 16-30 – 93,4%, 31-59 – 55,6%, 60 і больш – 10,4% насельніцтва.

Штодня праводзяць час у інтэрнэце 76,1% дзяцей і падлеткаў 11-15 гадоў, 82,9% жыхароў 16-30 гадоў і 53,7% беларусаў ад 31 года да 59 гадоў.

***Алена Спасюк, БелаПАН.***

# На 18% павышаецца кошт праезду ў прыгарадных аўтобусах

**1 красавіка ў сярэднім на 18% павышаецца кошт праезду на прыгарадных аўтобусах. Аб гэтым гаворыцца ў рашэнні Мінгарвыканкама № 659 ад 25 сакавіка, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Тарыфы на праезд у аўтобусах агульнага тыпу на звычайных маршрутах устаноўлены ў памеры 488 рублёў за 1 км, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 504 рублёў за 1 км.

На хуткасных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу тарыфы павышаны да 634 рублёў за 1 км, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — да 656 рублёў за 1 км, на дадатковых маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу — да 658 рублёў за 1 км, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — да 680 рублёў за 1 км, на экспрэсных маршрутах — да 732 і 756 рублёў адпаведна.

Тарыфы за 1 км для багажу ў аўтобусах прыгарадных маршрутаў складуць: для маламернага — 40 рублёў, сярэднямернага — 80 рублёў, буйнамернага — 160 рублёў.

Папярэдні раз тарыфы павышаліся з 1 снежня 2013 года на 20%.

***Марына Носава, БелаПАН.***

# Аб'ём аперацый ЕБРР у Беларусі ў 2013 годзе дасягнуў гістарычнага максімуму ў 255 млн. еўра

**З 31 сакавіка па 2 красавіка ў Беларусі будзе знаходзіцца віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) Андраш Шымар, паведаміў 27 сакавіка на брыфінгу ў Мінску прэс-сакратар МЗС Дзмітрый Міронччык.**

Паводле яго слоў, акрамя сустрэч і перамоў з афіцыйнымі асобамі, віцэ-прэзідэнт ЕБРР наведае першы пускавы комплекс швейцарска-беларускага завода па вытворчасці электратранспарту ААТ "Штадлер Мінск" у Фаніпалі Мінскай вобласці.

"ЕБРР бярэ ўдзел у фінансаванні ўказанага праекта. Усяго ў 2013 годзе аб'ём аперацый банка ў Рэспубліцы Беларусь дасягнуў гістарычнага максімуму ў 255 млн. еўра. Гэтаму шмат у чым спрыяла прынясце ў 2013 годзе новай стратэгіі ЕБРР для Беларусі на 2013—2015 гады", — падкрэсліў прэс-сакратар.

***Андрэй Серада, БелаПАН.***

# Перавоз не знікне з мапы Глыбоччыны!

Уладзімір Скрабатун



Колькі авечак? Не палічыш! Яшчэ столькі ж знаходзіцца па іншы бок кармушкі. Іншыя, дзясяткі два – у розных кутках вальера. І ўсё гэта гадуе сям'я фермераў з трох чалавек, а не цэлы калгас.

## Штосьці не так?

Дзіўная тэндэнцыя назіраецца сёння. Маладыя вяскоўцы пакідаюць бацькоўскі дом і бягуць без аглядкі ў вялікі горад. Вёска пусцее, выміраe, знікае з мапы краіны. Гэтым часам з вялікіх гарадоў, хоць і не масава, адзінкава, маладыя або сталыя сем'і едуць у глухмень, набываюць хутар дзесьці ў Галубіцкай пушчы, на беразе ракі ці возера, праводзяць свой лакальны вадаправод, каналізацыю, робяць паравое ацяпленне... Гэта значыць – у іх ёсць усё: і душ з ваннай, і ўнітаз у цёплым месцы – аб чым так марылі маладыя вяскоўцы, уцякаючы ў горад. Узводзяць шматлікія гаспадарчыя пабудовы: хлявы, стайні, парнікі, вальеры для свойскіх жывёлаў і птушак, а на беразе – сапраўдную парную лазню. Чаго яшчэ не хапае? Ага! Тэлефона? Дык XXI стагоддзе – драты ўжо не трэба цягнуць за 10-15 кіламетраў. Мабільны тэлефон, інтэрнэт! І жыві ў сваё задавальненне: дыхай свежым паветрам, хадзі басаном па расе, лаві рыбу, збірай грыбы ды ягады, любуйся прыгажосцю і цнотай прыроды. За якія грошы жыць? Трымай статак бычкоў, альбо атару авечак – здавай на мяса. Будуць грошы! Усё мары збудуцца – набывай джып па-задарожнік, узімку – пуцёўку на цёплы пляж у заморскія краіны! У дадатак да фермерства – можна займацца і агратурызмам. Ёсць на тое вялікі попыт.

## Погляд у даўніну

Перавоз. Сама назва паселішча кажа пра яго важнасць. Вёсак з такой назвай шмат. І ўсе яны знаходзяцца ля вялікай ракі, у тым месцы, дзе няма маста. Раку Шошу ля Перавоза цяпер улетку можна перайсці закасаўшы штаны. А некалі ж, яшчэ сто гадоў таму, гэта была салідная рака, глыбокая, хуткаплынная, са шматлікімі вірамі. Не перайсці! А што было пяць вякоў таму? Тут праходзіла вельмі значная старажытная дарога праз усю Галубіцкую пушчу – адгалінаванне ад слыннага Альгердава шляха, якое ішло ў бок Кублічаў на Ушаччыне і далей на Віцебск, Смаленск. Патрэбная была ў гэтым месцы пераправа, нешта накшталт паромнай – перавозіць праз Шошу людзей і коняў. Перавоз!

На польскай мапе за 1932 год у Перавозе адзначана 8 двароў. Канстанцін Курылёнак, 1919 г.нр, стражыл Перавозу, яшчэ у 2008 годзе, апавядаў, што ў тыя часы ў кожнай сям'і было па 7-8 дзяцей, то і жыхароў тут было – пад восем дзясяткаў. А сёння гэтую невялікую вёсачку, напэўна, чакаў бы лёс тысячаў беларускіх вёсак, якія зніклі з мапы краіны. Аднак сёння пачался новае адраджэнне Перавоза. На пагорку, над ракой, стаяць навюткія дыхтоўныя фермерскія пабудовы. Мы зацікавіліся: што гэта за людзі, якія адраджаюць вёску ў Галубіцкай пушчы. Завіталі.

## Месца тут прыгожае! Жыць не сумна

Да нас, насустрач, падышоў хлопец, як сталася, сын фермера, Вячаслаў.

– Гэта Вашая гаспадарка?– пытаемся ў хлопца.

*– Майго бацькі Аляксандра Мікалаевіча Сячко. Жывём тут я, бацька і маці Людміла Васільеўна. Бацька цяпер няма, паехаў у Глыбокае. Малодшы брат жыве ў іншым месцы.*

– Адкуль Вы прыехалі, калі не сакрэт? З Расіі, з Мінска?

*– Не з Мінска, а Мінскай вобласці, мінчукі жывуць у Бабруйшчыне, а мы ў Перавозе. Пераехалі з Любані. Гэта – дом майго дзядзькі, але ўжо дзесяць год як і наш.*



Ваўкалак на даху.

– І што вас схіліла ці натхніла да пераезду так далёка?

*– Лес, рака, вельмі прыгожае месца, магчымасць заняцца фермерствам.*

– Займаецеся фермерствам?

*– Так! Гадуем авечак – разам з маладняком сотня будзе. Ёсць гусі, трымаем козаў – малако ж патрэбнае нам. Ёсць цяпліца.*

– А ваўкі ці мядзведзі вам не перашкаджаюць?

*– Не, не бачылі. Лісіца прабягала, бачыў.*

*Калі цікавая наша гаспадарка, хадзем пакажу.*

Па іншы схіл пагорка, які не бачны з дарогі, перад намі паўстаў агароджаны вальер велічынёй з глыбоцкі стадыён. Кармушкі з сенам, дзясяткі авечак. Шматгалосае бляянне!

*– Гадуем, здаём на мяса,–* кажа Вячаслаў.

На пагорку, дзе стаяць фермерскія пабудовы, шмат штабеляў цэглы, крушні вялікіх каменняў, бярвенні.

– Па ўсяму бачна – планы ў вас грандыёзныя! З усяго гэтага можна пабудаваць не тое што дом, ці катэдж, а – цэлы замак.

*– Так, планы вялікія. Дзядзька тут будзе будаваць. Агратурызм развіваць. Па Шошы праходзіць байдарачны маршрут, часта бачым падарожнікаў.*

*Хадзем пакажу нашую лазню на беразе Шошы, калі цікава,–* прапануе Вячаслаў.

Падыходзім. Ого! Злева ад лазні – альтанка, дзе сцены складзеныя з вялізных валуноў, а столь падтрымліваюць таўшчэзныя бярвенні. На каньку даха – галава ваўкалака. Само ідовішча нагадвае штосьці скандынаўскае, на стаянку вікінгаў, нібыта пячора ў скалах на беразе мора.

*– Гэта дзядзька – любіць каменні і дрэвы,–* тлумачыць Вячаслаў. *– Унутры камін і мангалы, можна шашлыкі і барбекю смажыць.*

У падобным стылі зробленая і досыць умяшчальная лазня, падзеленая на пакоі рознага прызначэння: раздзявальня, парылка, мыйная. Вада ў лазню падаецца са студні з дапамогай насоса. Пры падходзе да альтанкі і лазні – трохпралётная брама, дзе ў якасці калонаў выкарыстаныя вялізныя нечасаныя бярвенні.

– Ну, як не сумна жыць у пушчы?– пытаем на развітанне ў Вячаслава.

*– Спачатку было сумна, потым звыкся, цяпер падабаецца.*

– Дзяўчыну табе трэба добрую, гаспадыню, знайсці!

*– Яшчэ паспею!*

Дзякуй Богу, яшчэ адна глыбоцкая вёска не знікне з мапы краіны! І ўсё гэта, ізноў, дзякуючы прыезджым з іншых, нават далёкіх, краёў. Гэтак сама як Серафімовічы з Мінска адрадзілі вёску Скрабатуны, як Мельнічэнкі – Маргі, як навапалачане не далі знікнуць Хралам, а менчукі далі новае жыццё Бабруйшчыне.



Вячаслаў Сячко, малады фермер.



Альтанка нагадвае пячору.



Па сцяжынцы да лазні – штосьці накшталт трыумфальнай аркі.

# Сам браканьер стаўся здабычай інспектараў

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Як толькі вясна цалкам уступіла ў свае правы, у прыродзе ўсё ажыло, прыляцелі першыя вясновыя птушкі, звяры ўжо вывелі нашчадкаў, рыба пачала нераст. У гэты перыяд на тэрыторыі ўсёй рэспублікі Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўведзены вызначаныя абмежаванні і забароны на прамысловую і аматарскую лоўлю.**

Вылоўліванне ўсіх відаў рыбы забараняецца з 1 красавіка па 30 траўня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якое здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, у светлы час сутак з берага без заходу ў ваду. Ва ўказаны перыяд часу ўводзяцца асобныя абмежаванні толькі на перыяд нерасту, напрыклад – выкарыстанне грамадзянамі маламерных судоў, лоўля рыбы толькі адной вудай і толькі з берага, без заходу ў ваду.

У перыяд забароны і нерасту рыбы шкода за незаконна здабытую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры яе кошту. Так, кошт 1 асобіны шчупака незалежна ад яе памеру складае 150 тыс. рублёў (з 1 красавіка), у перыяд забароны 450 тыс. рублёў, адна асобіна ліна ў 2 б.в., а ў перыяд забароны 6 базавых велічынь, г.зн. 900 тысяч рублёў.

Як, паказала практыка мінулых гадоў, у перыяд вясноватага нерасту рыбы актывізуюцца браканьеры. Карыстаючыся тым, што рыба ў дадзены перыяд часу актыўная, не вельмі асцярожная, у сувязі з нераставаннем, браканьеры рознымі варварскімі спосабамі спрабуюць налавіць больш, не думаючы пра наступствы.

І ўжо ёсць першыя затрымання аматары дармаўшчыны. 24 сакавіка 2014 года каля 14 гадзін 20 хвілінаў супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ў в. Лужкі Шаркоўшчынскага раёна на рацэ Мнюта, затрымалі мясцовага жыхара, які прыйшоў на рэчку з восцямі, але здабыць рыбы не паспеў, яго затрымалі інспектары. Затрыманага парушальніка зараз чакае раённы суд, які ўганаруе кожнаму па заслугах.

26 сакавіка каля 23 гадзін ночы на возеры Бялькі Пастаўскага раёна супрацоўнікі інспекцыі затрымалі жыхара в. Бялькі, грамадзяніна М, які пад полагам цемры ўсталяваў браканьерскую сетку, ды вось не задача, не паспеў выплыць на бераг, як сам стаў здабычай інспектараў. Браканьер і раней затрымоўваўся інспектарамі, відаць, што ўрок не пайшоў на карысць. Раённы суд ацэніць дзеянні парушальніка.

28 сакавіка інспектары міжрайінспекцыі на возеры Пятроўшчына Глыбоцкага раёна затрымалі жыхара г. Глыбокае, які ішоў на рыбалку, ды толькі не з вудай, а з пад'ёмнай сеткай, якой лоўля рыбы забаронена. Інспектары сетку канфіскавалі, склалі адміністрацыйны пратакол, а за браканьерскую снасць грамадзянін яшчэ павінен будзе і заплаціць.

Штогод, у перыяд вясновага нерасту супрацоўнікі інспекцыі і міліцыі затрымоўваюць дзясяткі, а па краіне - тысячы браканьераў, але, на жаль, прага нажывы, прага забіць бездапаможную рыбіну, мацней.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам. Людзі, не будзьце абыякавымі да браканьераў, беражыце прыроду. Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва.

Тэлефоны "гарачай лініі" кругласутачна : 8-02156: 2-86-70 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС)

Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.

## Міні-завод па вытворчасці самагонкі выявілі ў адным з дамоў Шаркоўшчынскага раёна

**Нелегальны міні-завод па вытворчасці самагонкі быў ліквідаваны ў закінутай вёсцы Рабізы, размешчанай у 30 кіламетрах ад гарадскога пасёлка Шаркоўшчына.**

Супрацоўнікі АП УАПП УУС Мінаблвыканкама, АМАП УУС Мінаблвыканкама разам з міліцыянерамі Шаркоўшчынскага РАУС падчас прафілактычных мерапрыемстваў выявілі гэты нелегальны аб'ект. Міні-завод знаходзіўся паблізу мяжы з Глыбоцкім раёнам. Да закінутай сялібы самагоншчыкі пракладі нават пад'язную дарогу. Візіту міліцыі тут ніхто не чакаў. У двары стаяла цэлая машына дроў. У хаце пры аглядзе былі выяўлены самагонны апарат і ёмістасці з брагай, а таксама канфіскавана 7 тысяч 370 літраў брагі і 40 літраў самагонкі. Пры поўнай загрузцы самагоншчыкі маглі вырабляць каля тоны алкагольнай вадкасці ў суткі. Уся брага і гатовая прадукцыя ўтылізаваныя. Вядзецца пошук тых, хто быў датычны да незаконнай вытворчасці. Гэты падпольны міні-завод – найбуйны з выяўленых за апошнія гады на Віцебшчыне.

© ONT.BY

## Самым бедным раёнам Беларусі стаў Шаркоўшчынскі

**Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэдніх заробках у кожным з рэгіёнаў Беларусі ў студзені 2014 года.**

Найвышэйшыя заробкі былі зафіксаваныя ў Мінску ($749) і Наваполацку ($724). Услед ідзе Салігорскі раён ($691), прадпрыемствы якога так і не ачунялі пасля калійнага крызісу.

А самым бедным раёнам стаў Шаркоўшчынскі. У студзені работнікі тут зараблялі ўсяго па $338. Трохі больш у Мсціслаўскім ($354) і Браслаўскім ($359).

Адзначым, што больш за сярэдні заробак атрымлівалі работнікі толькі ў 6 раёнах краінах, а таксама ў некалькіх абласных гарадах.

ЯМ

## Лукашэнка – аграрыям: Грошай больш ніхто вам не дасць, пачынайце працаваць

**Пра гэта А. Лукашэнка заявіў у часе наведвання Дзяржынска.**

Старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра падрабязна праінфармаваў аб работах, што праводзяцца ў сельскай гаспадарцы, праблемных пытаннях.

«Хачу, каб вы ўсе мелі на ўвазе, што сёлета ніхто вам грошай не дасць, як у мінулыя гады. Толькі пад нейкія праекты, якія будуць цікавіць дзяржаву. І не толькі таму, што ў свеце сітуацыя такая, – папярэдзіў Аляксандр Лукашэнка. – Пачынайце працаваць і лічыць выдаткі. Усё, што вы вырабіце, прадасце, — дзяліце. Думайце, як вы будзеце жыць і, калі трэба, нават выжываць, але толькі за кошт уласных сіл».

БелТА

## У Глыбокім з'явіцца скейт-парк

■ Сяржук Серабро

**Перад пачаткам летніх вакацый у Глыбокім павінен з'явіцца скейт-парк — адмысловая пабудаваная пляцоўка для заняткаў скейтбордам, стрытбордам, агрэсіў-ролікамі і т.п.**

Тэндар на набыццё скейт-парку абвясціла жыллёва-камунальная гаспадарка Глыбоцкага раёна. Фінансавацца закуп будзе з мясцовага бюджэту, а пастаўка павінна быць завершана да канца траўня.

Мяркуючы па дакументах тэндара, г. Глыбокае збіраецца закупіць скейт-парк мадэлі В-120 эстонскага вытворцы дзіцячых і спартыўных пляцовак «Tiptiptap». Ён мае памеры 25x15 метраў і павінен мець прынамсі наступныя элементы: рэйл, квотар, бэнк і фан-бокс.

На сайце вытворцы кошт не паказаны, але аналагічныя прапановы на рынку каштуюць каля 10 000 даляраў.

## Рашэнне ўрада: бацькі будуць аплачваць поўны кошт харчавання дзяцей у садах

**З 1 красавіка бацькі будуць аплачваць поўны кошт харчавання сваіх дзяцей ва ўстановах дашкольнай адукацыі. Пастановай Саўміна №266 ад 27 сакавіка вырашана павялічыць гэтую норму адразу на 40%. Ва ўрадзе кажуць, што атрыманыя сродкі пойдуць на павышэнне заробкаў выхавальнікаў.**

« У цяперашні час выдаткі бюджэту на ўтрыманне аднаго дзіцяці ва ўстанове дашкольнай адукацыі складаюць у сярэднім 1,5 мільёна рублёў у месяц, бацькі аплачваюць усяго каля 20 % выдаткаў, — каментуюць прыняцце дакумента ва ўрадзе. — Пасля прыняцця пастановы бацькі будуць аплачваць у поўным аб'ёме толькі кошт набору прадуктаў харчавання, гэта значыць плата бацькоў павялічыцца ў сярэднім на 150 тысяч».

Пры гэтым шматдзетныя сем'і па-ранейшаму будуць плаціць за харчаванне ў дзіцячых садках толькі палову яго кошту. Бацькі дзяцей-інвалідаў, дзяцей, якія пакутуюць ад анкалагічных захворванняў, хворых на туберкулёз, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, а таксама члены сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні воінскага або службовага абавязку, як і раней, будуць вызваленыя ад дадзеных выдаткаў.

«Уведзены і новыя ільготы па аплаце харчавання для асобных катэгорый грамадзян. Гэтак, на 30% зніжаная плата для сем'яў, у якіх двое дзяцей наведваюць дашкольную ўстанову, на 50% — для апекуноў, прыёмных бацькоў, бацькоў-выхавальнікаў дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, дзіцячых вёсак (гарадкоў )», — кажуць пра навоўвядзенні ў прэс-службе Савета міністраў.

Tut.by

## У Беларусі памяншаецца колькасць і працоўных, і беспрацоўных

У эканоміцы Беларусі ў студзені-лютым было занята 4,49 млн чалавек, што на 1,3% менш, чым годам раней. Паводле дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацабароне, на канец лютага склала 23,2 тыс. чалавек, што на 11,6% менш, чым на канец лютага 2013 года, і на 2,1% больш, чым на канец студзеня 2014 года.

Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец лютага склаў 0,5% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (годам раней - 0,6%), паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.

Арганізацыі (без мікраарганізацый і малых арганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у лютым прынялі на працу 53,8 тыс. чалавек (1,7% сярэднемесячнай колькасці). Звольнена па розных прычынах 55,1 тыс. чалавек (1,7% сярэднемесячнай колькасці).

Каэфіцыент замяшчэння работнікаў (адносіны колькасці прынятых да ліку звольненых) у лютым склалі 0,976 (годам раней - 1,022).

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар **166 кругласутачна**. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – **"Вольнае Глыбокае".**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 красавіка

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00**,**07.20**,**08.15** Доброе утро, Беларусь!.
**07.00**, **08.00**(с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,00.05** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**08.50** Слово Митрополита Павла на праздник Благовещения Пресвятой Богородицы.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.50** «Ирина и Виктор Салтыковы. Расплата за любовь».
**12.10** Док.сериал «Мистические истории» (Украина).
**13.10** **«Дыши со мной. Счастье взаймы»**
**15.15**,**18.40**Новостирегиона
**15.25** **«След»** (Россия).
**16.30** Док.цикл«Семейные мелодрамы»
**17.35** Белорусское времечко.
**19.20** Арена.
**19.40**, **23.45** "Зона Х".
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** Военная драма **«Снайпер. Оружие возмездия»**1 и 2-я с.
**23.35** Актуальн.интервью.
**00.20** День спорта.
**00.35** Док.сериал «Мистические истории» (Украина).
**01.25** **«След»** (Россия).

### ОНТ

**06.00**,**08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «В наше время».
**12.05** «Они и мы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера. «Дело ваше…».
**13.55**«Модныйприговор».
**15.00** «Наедине со всеми».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Остров Крым».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Рогнеда». Интрига парижской сцены».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Позиция».
**22.05** Леонардо Ди Каприо в фильме «Кровавый алмаз».
**00.45**-**01.15** Ночн.новости.



### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Двое из ларца»**
**10.05** Телебарометр.
**10.40** **«Я - телохранитель»**
**11.45** **«Ласточкино гнездо»** (Украина).
**14.10** «Два с половиной повара. Открытая кухня». Кулинарный мастер-класс
**14.40** **«Невезучие»**
**16.20** «Перезагрузка».
**17.00** Приключенческий мультсериал **«Клуб Винкс. Школа волшебниц»**
**17.55** **«Двое из ларца»**
**18.55** **«Назад в СССР»**. 1-я, 2-я серии.



**20.45** Тело человека.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Комедийный сериал **«Универ. Новая общага»** (Россия).
**22.35** **«Реальные пацаны»** (Россия).
**23.35** «Перезагрузка».
**00.15** Музыкальный конкурс «GBOB» в Беларуси.

### СТВ

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро «.
**08.30** «Неделя».
**09.45** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.40** «Такова судьба».
**12.30** «Четыре свадьбы».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Дальние родственники».
**14.10** СТВ представляет: «Звездный ринг».
**15.15** «Другая страна». «Япония: по ту сторону суши».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Пища богов».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Кино»: **«600 КГ ЗОЛОТА»**.
**22.15** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».

### БЕЛСАТ tv

**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**8:05** «Людскія справы»
**8:35** Фітнес-шмітнес
**8:55**Станіслаў Манюшка
**9:05** Два на два
**9:40** «Джынсы, планета ў сінім»
**10:40** Эксперт
**11:10** Кулінарныя падарожжы
**11:40** **«Mad Men. Утрапёныя»**: 9 серыя
**12:30** ПраСвет
**12:55** Два на два: Сяргей Жбанаў і Мікіта Бяляеў
**13:30** Зона «Свабоды»
**14:05**«Людскія справы»
**14:40** Фітнес-шмітнес
**15:00** Гісторыя пад знакам Пагоні : Станіслаў Манюшка
**15:10** **«Барбурка»**
**16:20** **«Кава і цыгарэты»**, камедыя
**18:00** **«Mad Men. Утрапёныя»**: 9 серыя
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок»
**19:00** Навіны
**19:10** Агляд медыяў
**19:20** Гарачы каментар
**19:30** Навіны
**19:50** Дэвайс
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Размова дня
**21:45** Відзьмо-невідзьмо
**22:10** **«Кава і цыгарэты»**, камедыя
**23:45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**1:20** Асабісты капітал
**1:45** Аб'ектыў
**2:10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**2:30** Відзьмо-невідзьмо

